

Іта Еліна (Пінс) нарадзілася ў 1868 г. у мястэчку Ружаны пад Гродна. Яе бацька, рав Йехіэль Міхл Пінс, быў перапісчыкам сьвятых тэкстаў, выхавацелем і публічнай асобай, адным з заснавальнікаў рэлігіёзнага сіянізму. Яе маці, Хая Цыпора Пінс, займалася грамадскай дзейнасьцю, была дачкой мецэната і грамадскага дзеяча Шмар'ягу Лурыі з Магілёва і ўнучкай рабі Гілеля Рывліна, аднаго з заснавальнікаў ашкеназскага паселішча ў Ерусаліме.

У 1885 годзе Іта, ва ўзросьце 17 год, выйшла замуж за Давіда Еліна, зь якім нарадзіла 7 дзяцей: 2 дачкі і 5 сыноў.

На працягу вялікай колькасьці год Еліна працавала ў арганізацыі "Бнэй Брыт", у стварэньні якой на Зямлі Ізраіля яна таксама прымала ўдзел. Яе маці, Хая Цыпора, у 1894 г. заснавала таварыства "Эзрат нашым" (гульня словаў: "Жаночая частка сінагогі", але можна таксама разумець як "дапамога жанчынам"), у 1905 г. таварыства заснавала лякарню для псіхічна і невылечна хворых. Іта дапамагала ёй кіраваць таварыствам і арганізацыяй, а з 1912 г. зьмяніла яе на пасадзе прэзідэнта арганізацыі. Таксама Еліна прымала ўдзел у стварэньні і кіраваньні інтэрната і майстэрні для габрэйскіх дзяўчынак у Ерусаліме (1910-14). Інтэрнат прызначаўся для дзяўчынак з рэлігіёзных сямей, бацькі якіх не маглі аддаць іх у агульную школу. Пасьля таго, як яна вярнулася з Дамаскага выгнаньня ў 1918 г., яна працягнула займацца грамацкай дзейнасьцю ў таварыстве "Эзрат нашым" і ў арганізацыі "Таварыства даббрачыннасьці" (з 1928г.) і іншых жаночых арганізацыях.

Памёрла ў 1943м годзе, ва ўзросьце 75 год.

# Дні майго дзяцінства.

## 1. У Ружанах

Я нарадзілася ў Ружанах, што ў Гародненскай губерні, у дзень 17 кіслева 5629 г.[1] у бацькоў р. Йехіэля Міхла з дому Пінс і Хаі Цыпоры дачкі знакамітага пана р. Шмар’і з дому Лурыя, абодва гэтых дома вялікія ў Торы, у мудрасьці, у дабрачыннасьці, у гасьціннасьці, і іншых падобных якасьцях.

І нават сёньня яшчэ праходзіць перад маімі вачыма жыцьцё ў нашым доме ў тым маленькім, ціхім мястэчку.

*Дом, і бабуля, і сьвяточныя дні*

З дзён майго дзяцінства я ўспамінаю зараз наш прасторны і прыгожы дом; вялікую пляцоўку, дзе гуляліся мы, чатыры сястры і дзеці нашага дзядзькі; нашу сукку[2], што стаяла ў нашым двары, якую таксама і я разам з дарослымі дапамагала ўпрыгожваць прыгожа прыгожа; тое, як мы сідзелі ў ёй разам з нашай мудрай і шляхетнай бабуляй і разам з бацькамі, сёстрамі і шматлікімі дзядзькамі і цёткамі. Я ўспамінаю зараз асабліва сьвята Пэсах, з накрытым вялікім сталом, які быў упрыгожаны кветкамі (ужо ў той час!) і срэбранымі прыборамі і найлепшым фарфорам (тыя рэчы з славутага мінулага дагэтуль знаходзяцца ў доме дзяцей Эліэзара і ў доме рава Ар’е Фінгенбойма, якія атрымалі іх у падарунак ад маіх бацькоў, сьветлай памяці), а зьверху пад стольлю вісеў раскошны сьвяцільнік, які даваў сьвятло ўсяму пакою, і жанчыны апраналіся ў шоўк і аксаміт, а іх галовы, і рукі, і грудзі былі ўпрыгожаныя выкшталцонымі каштоўнымі каменьнямі, якія нас моцна ўражвалі і дадавалі жанчынам прыгажосьці і шляхетнасьці. Колькі было прыгажосьці і раскошы! А мужчыны апраналіся ў найлепшыя белыя кітэлі[3] з ільна, а на іх галовах былі кіпы[4] з такога самага мацерыялу, і ў нашых вачах, і ў вачах усіх прысутных яны выглядалі падобна анёлам.

---

[1] 01.12.1868

[2] Будан, у якім павінны жыць габрэі падчас сьвята Суккот.

[3] Доўгі, прыгожы халат, які габрэйскія мужчыны апранаюць у асабліва сьвяточныя дні.

[4] Галаўны ўбор габрэйскіх мужчын, ярмолка.

*Пярэдадзень Йом Кіпура*[5]

Перад маімі вачыма стаіць, нібыта жывая, выява дня перад Йом Кіпурам у Ружанах, калі мне было 5 год. Мой тата, сьветлай памяці, стаіць на прыступках цокальнага паверху нашага дому і рэжа капарот[6] бясконца. Прычынай гэтаму была спрэчка паміж рэзьнікамі і гаспадарамі дамоў, што першыя адмаўляліся рэзаць. Тады мой тата прыняў на сябе абавязак рэзьніка, пакуль не скончыліся ўсе капарот, якія трэба было зарэзаць у той дзень, і ўсё зноўку мірна стала на свае месцы.

*Ноч Ханукі*

Якімі прыгожымі былі вечары Ханукі! Ды й наогул усе нашы народныя сьвяты. Колькі было унутранай прыгажосьці ў сьвятах, зусім інакш чым сёньня. Уся сямья сьвяткавала дома, сярод знаёмых і сяброў. Паводле тагачаснага звычая сьвяты не выходзілі за межы дома, таму ўся сямейная велічнасьць і чароўнасьць атрымлівалі зусім іншую ўнутраную прыгажосьць, нават без уліку ўсёй сьвятасьці і традыцыі. Вось я памятаю адну ханукальную ноч. Мой тата ў той вечар вярнуўся з Брэсту і прывёў з сабой некалькі гасьцей, якія ўвайшлі ў залу, дзе былі ўсе члены сямы. Усе былі ў прыемным настроі і гулялі ў карты, у Аку ці Прэферанс (Брыдж і іншыя мы тады ня ведалі), і яны таксама прывезьлі ў наш дом падарункі: машынку каб драбіць цукар (яна засталася ў мяне на памяць дагэтуль) і два саўка, каб выграбаць вугольлі і залу з гарачай печы. Падобныя прылады, якія так моцна зьзялі сваёй прыгажосьцю, я бачыла ўпершыню, і таму яны засталіся ў маёй памяці дагэтуль, і я не магла ўявіць у сваім маленькім узросьце, як можна было выграбаць агонь настолькі прыгожымі прыладамі і не сапсаваць іх. Да іх дадаліся яшчэ медзяныя прылады, якія зьзялі нібыта полымя на вялікай і чыстай кухне. Тыя прыгожыя рэчы, якія прывёз нам мой тата, былі тады цудам не толькі ў маіх вачах, але і ў вачах іншых.

*Вясельле майго дзядзькі*

Я памятаю вясельле майго дзядзькі Абы. Я яшчэ бачу прасторныя пакоі, адчыненыя праходы, праз якія праходзілі ў даўжыню з пакою ў пакой, і па ўсёй даўжыні віселі на столі раскошныя сьвяцільні, на кожнай зь якіх мелася каля 20 воскавых сьвечак, і ўвесь дом выглядаў тады нібыта напоўнены электрычным сьвятлом (тады яшчэ ў нашым горадзе не было электрычнасьці). І сваты прыехалі з Варшавы, з Магілёва, Гродна і Коўна, і ўсе спыняліся ў пакоях, якія кожная з сямей падрыхтавала ў доме да прыёму. Мы сьвяткавалі вясельле 7 дзён і 7 начэй, і ўвесь горад стаяў на вушах.

*„Хэдар”*

Вось я яшчэ ўзгадваю “хэдар”, дзе я вучылася. І таксама прыслужніка, які прыходзіў раніцай і адводзіў мяне і маю старэйшую сястру Сару-Рохэль, сьветлай памяці, у хэдар, які стаяў на адной тэрыторыі з йешывай. Хэдэр быў доўгі і вузкі. Вакол стала сядзелі вучаніцы, і слухалі ўсё, што зьлятала ў настаўніка з вуснаў, а мы паўтаралі за ім. Не памятаю, каб я калісьці атрымлівала ад настаўніка аплявуху, бо я тады была 5-ці гадовай дзяўчынкай, а настаўнік заўсёды лічыўся з выхадцамі з сямы Пінс, і стрымліваў свой гнеў і вяртаў паднятую руку на стол, альбо ў кішэні сваёй вопраткі. Прыслужнік прыносіў нам ежу ў абед, а ўвечар вяртаў нас да дому з ліхтарыкам у рках, бо нам трэба было перайсьці мост, пад якім было возера, што адасабляла горад ад тэрыторыі сінагогі. Была небяспечнасьць, што нейкая з гарэзьлівых дзяўчынак захоча паспрабаваць гуляцца ў вадзе, таму прыслужнік ахоўваў нас вельмі добра, пакуль мы не вярталіся да дому з мірам.

---

[5] Дзень Адкупленьня – сьвяточны пост на 10-ы дзень пасьля габрэйскага Новага Году

[6] Куры, альбо пеўні, якіх рэжуць перад Судным Днём, каб потым аддаць іх жабракам у якасьці ахвяраваньня (каб праз гэтую дабрачыннасьцю атрымаць больш літасьці ад Бога ў Судны Дзень).

*Зімнімі вечарамі дома*

Як прыемна было вяртацца да дому і сядзець у цёплым і чыстым пакойчыку пасьля 10 гадзін бесперапыннага сядзеньня ў цесным і цёмным хэдары. Нас там было каля 10 дзяўчынак. Усе з вельмі радавітых і багатых сямей Ружанаў. Я і мая сястра заўсёды паўтаралі перад нашым татай усё, чаму нас вучыў настаўнік, а тата заўсёды тлумачыў нам Пяцікніжжа, Пяцікніжжа было дарагое, выданьня Філіпзона з малюнкамі і тлумачэньнямі па нямецку. Не лёгка нам давалася паўтарэньне перад татай, вечнай памяці, бо ён патрабаваў ад нас слушных тлумачэньняў, і ён не заўсёды быў задаволены адказамі, якія мы давалі яму. Потым ён вырашыў запрасіць нам да дому “рэбе” (настаўніка), каб ён вучыў нас дзеля лепшага вывучэньня іўрыта.

*Сямья*

У майго дзядулі Ноаха Пінса было чатыры браты, і ў кожнага з іх сыны і дочкі і вялікае багацьце. Яны былі ўладальнікамі мануфактур, дзе выраблялі коўдры і шарсцяныя дываны, большасьць якіх пастаўлялася ў царскую армію Расеі; і таксама талмуд-тораў, лякарняў, і акрамя таго ўсе цэнтры Торы і дабрачыннасьці кіраваліся сямьёй Пінс, якая ўладарыла ў горадзе і аколіцах, утвараючы дзяржаву ўнутры дзяржавы.



Мой дзядуля р. Ноах і мая бабуля Гінда, бацькі майго таты, вечнай памяці.

У майго дзядулі Ноаха, вечнай памяці, было шэсьць сыной і тры дачкі, і ўсе яны пабраліся шлюбам з вельмі радавітымі і багатымі семьямі таго часу. Зэев Яавец[7], Берл Фрыдленскі і Лейбуш Давідзон былі жаніхамі, і я веру, што ёсьць яшчэ людзі, у якіх з сэрца яшчэ не сьцёрлася памяць пра іх, і іх ведаюць, бо яны былі вялікімі людзьмі, падобных якім у нашым пакаленьні амаль не знайсьці. Таксама і для сыноў знайшлі радавітых і заможных нявест з сямы Шмар’і Лурыя і іншых; а трое з сыноў узялі нявест знутры сямой сямы Пінс, каб

[7] Зэев Яавец (26.09.1847 – 24.01.1924) – габрэйскі гісторык, настаўнік і лінгвіст іўрыта.

узмацніць гонар гэтай дынастыі, і не пажадалі зьмешвацца з іншымі семьямі, як гэта было звычаем тады сярод высакародных сямей.

*Мянушка маёй бабулі і родзічаў*

Маю бабулю, маіх дзядзькаў і цётак называлі не іх сапраўднымі імёнамі, але паводле назваў гарадоў, адкуль яны паходзілі. Маю бабулю называлі “ды Варшэвэрн”[8], цётку маю называлі “ды Лембергерн”[9], дзядзькаў звалі “Лейба Ваш”[10] і “Лев Пожнак”[11], адну цётку называлі “Бэйла ды Новардыкерын”[12], і ўвесь горад ведаў, да каго зьвяртаецца паводле гэтых імёнаў.

*Праца*

Мая бабуля Гінда прывучала мяне да працы. Часам яна звала мяне ў сталовы пакой, дзе на стале стаяў самавар і шмат кубкаў для гарбаты, і загадвала мне пачысьціць іх. Я памятаю дагэтуль мяккі чысты ручнік, які мне вельмі падабаўся, і я з вялікім жаданьнем чысьціла ім кубкі, якія зьзялі вельмі прыгожа, і кожнаму, хто заходзіў у пакой, бабуля паказвала вынік маёй працы, а я атрымлівала шматлікія пацалункі, і прыгожыя падарункі, і ўхваленьні за маю пасьпяховую працу.

*Палац*

Я памятаю палац, які называўся “Палац”, і які ў мінулую вайну спалілі расейцы. Каля гэтага палацу, бо там паблізу жылі шмат хто з нашых сямей Пінс і Мінц, мы хадзілі кожны шабат у госьці да дзядзькаў і цётак. Вакол яго былі будынкі пабудаваныя накшталт замку. І раскошныя памяшканьні. Пасьля польскага паўстаньня палац перайшоў у рукі расейцаў, а потым перайшоў да прыватных асобаў.

*Косава*

Я не забылася таксама і пра Косава, што знаходзіцца недалёка ад нашага гораду, і таксама раскошны дом з вялікім садам, які належыў нашаму дзяьдзку Іцхаку Пінсу. Адной ноччу я вярталася ад іх з маёй маці да дому, і ў тую ноч прыйшлі рабаўнікі, якія зьбіраліся забіць і абрабаваць дзядулю з бабуляй (потым каля іх ложку знайшлі нож), і толькі праз цуд яны ўратаваліся ад жудаснай сьмерці і пражылі яшчэ шмат год, шмат працуючы на карысьць жыхароў Косава і Ружанаў.

*Як мне пракалолі вушы*

Я памятаю, як аднойчы мой дзядзька Лейба пасадзіў мяне на доўгі стол, што стаяў у сталовым пакоі, каб пракалоць мне вушы і павесіць на іх плацінавыя завушніцы з каштоўнымі каменьнямі, гэта быў падарунак, які я атрымала на народзіны, калі мне споўнілася 5 год.

*Начны жах*

Той дзядзька любіў прывучаць нас, мяне і маю сястру, што старэйшая за мяне на паўтара гады, каб мы не баяліся выходзіць вонкі ноччу. І аднойчы ў якасьці выпрабаваньня нам трэба было цёмнай і змрочнай ноччу прыйсьці адным да яго дому, які стаяў насупраць нашага, што нам трэба было толькі перайсьці на другі бок шырокай вуліцы, і мы вытрымалі выпрабаваньне без страху і з мужнасьцю, што ў тыя дні мы лічылі геройствам.

---

[8] Варшавянка.

[9] Львоўка.

[10] Лейба з Вацу.

[11] Лев з Познані.

[12] Бэйла Наваградка.

*У Магілёў*

Калі мы з сястрой падрасьлі, і мне было ўжо сем год, наш тата пачаў клапаціцца пра наша выхаваньне ў будучым. Тады ўся сям’я сабралася і вырашыла паслаць маю старэйшую сястру ў горад Варшаву ў дом Зэева Яавеца, а мяне ў дом бабулі, маці маёй матулі, Ханы Лурыя ў Магілёў, што на Дняпры. Пачаліся зборы. Цёткі дапамагалі маці рыхтаваць для нас усё, як таго патрабуе вялікі горад, мой тата паехаў з сястрой у Варшаву, а мяне паслалі з папячыцелем нашага дому, “Шломам дэр Гелерам”, і бацькі не сумняваліся, што перадалі мяне ў надзейныя рукі. Разьвітаньне было для мяне вельмі цяжкім, але я спадзявалася пабачыць вялікі горад і сваякоў з матчынага боку, якія тады ўсе жылі ў горадзе Магілёве.



Мая бабуля Хана дачка р. Гілеля Рывліна, маці маёй маці, спачывай з мірам

*Лупалава і раман Дынезона*

Колькі дзён мы ехалі, я ня памятаю, але калі мы прыбылі ў Лупалава, што знаходзіцца ў паўгадзіне ад Магілёва, мы сышлі на пастаялым двары, каб выпіць гарбаты, а я слухала размовы паміж людзьмі, якія сядзелі каля стала, наконт раману, што тады выйшаў і называўся “Дэр шварцэр юнгер манчык”[13]. Аўтарам гэтага раману быў Якаў Дынезон. Не думаю, што я ведала, ці разумела меркаваньні людзей, якія абмяркоўвалі кнігу. Але размова і спрэчка, што адбылася паміж тымі людзьмі, засталіся ў маёй памяці. Пра кнігу і яе аўтара я чула яшчэ не раз, пакуль не прачытала яе сама, калі вырасла.

[13] „Чорны малады хлопчык“

# 2. У Магілёве

*Мая выхавацелька ў Магілёве*

Наш вялікі дом, у якім жыла бабуля Хана, стаяў паміж вуліцамі Ветранай[14] і Шклоўскай[15], а мая кузіна Груна Цукерман узялася стаць маёй выхавацелькай і клапацілася пра ўсе мае патрэбы, і яна рабіла гэта з вялікай вялікай любоў'ю да мяне, і прыязнасьць да яе захоўваецца ў маім сэрцы да гэтага дню.

*Вучоба ў пансыёне*

Дачка маёй цётушкі не давала мне шмат часу, каб бадзяцца без справы, і як толькі прайшло сем дзён з майго прыезду, яна запісала мяне ў пансыён Бельскі ў падрыхтоўчы кляс. Мовамі навучаньня былі: руская і нямецкая альбо французская, паводле палітыкі, што была тады паміж Расеяй і тымі дзяржавамі. Быў таксама "казённы равін", які выкладаў Пяцікніжжа ў рускім перакладзе адну гадзіну на тыдзень. Але на гэтым дачка маёй цётушкі не спынілася і ўзяла для мяне "рэбе", каб вучыць мяне дома Пяцікніжжу і габрэйскаму пісьму. А паколькі я ня ведала рускай мовы, запрасіла маладую рускую, каб лепш падрыхтаваць мяне для клясаў.

*Выпадак з маленькім парсючком*

Мая настаўніца была дачкой папа. Аднойчы яна запрасіла мяне да сябе ў дом падчас іхняй пасхі, мне тады было сем, і калі я ўвайшла ў сталовы пакой і ўбачыла на стале цэлых маленькіх парсючкоў – засмажаных і ўпрыгожаных галінкамі дрэў і кветкамі – на мяне напаў жах. Я яшчэ стаяла і глядзела з агідай на ўсю гэтую карціну, як тут да мяне раптам падыйшла мая настаўніца з маленькім парсючком у руках і сунула яго мне ў нос. Тады на мяне напаў вялікі жах, бо я думала, што яна мяне ўжо "зьнішчыла". Я хутка пабегла ў пакой папа (яе таты) і распавяла яму ўсё, што адбылося, а сьлёзы цяклі з маіх вачэй без перапынку. Тады поп паклікаў да сябе сваю дачку, і на маіх вачах паваліў яе на падлогу і "абсыпаў" яе цела ўдарамі бяз літасьці. Тады я ўласнымі вачыма пабачыла помсту за яе жаданьне навесьці на мяне настолькі вялікі грэх, і я доўгі час не забывалася пра гэта.

*Гісторыя пра парасонік ад сонца і ўраганны вецер*

Як я пісала раней, дачка маёй цётушкі, Груна, заняла месца маёй маці ў выхаваньні і клопатах пра ўсе мае патрэбы, і да вучобы, і да забаваў. Яна брала мяне на шпацыроўкі і на фэсты, якія ладзілі з вялікай урачыстасьцю да дня народзінаў рускага імпэратара ці яго каранацыі і нараджэньня дзяцей ў яго сямы. Вялікі і прыгожы сад, што ляжаў на гары, быў напоўнены вялікім мноствам кветак, а вакол яго адкрываўся цудоўны краявід. Адтуль была бачная рака Дняпро з усіх бакоў. Каля гэтага саду стаяў палац губернатара. Гэтае месца заўсёды выклікала ў нас страх і трапятаньне, і пры гэтым заўсёды было шмат мінакоў, што атрымлівалі асалоду ад цудоўнага выгляду гэтага месца пад час фэстаў, якія ладзіў урад да ўрачыстых дзён. Аднойчы, калі я шпацыравала разам з маёй выхавацелькай падчас падобнага фэсту, падняўся моцны ўраган, які зрываў тое, што было на галовах мінакоў, а ў мяне з рук выхапіў мой маленькі і прыгожы парасон ад сонца з зялёнага шоўку, які я атрымала ў падарунак на дзень майго нараджэньня. Мой смутак з нагоды гэтай страты быў надта вялікі, і калі мы знайшлі яго ў аптэцы каля нашага дому, ён быў зламаны і парваны і ляжаў безжыцьцёвы; і мне не заставалася нічога, як абняць яго і плакаць па ім і па таму кароткаму часу, што я ім карысталася. Хаця гэтыя рэчы неістотныя для чытача і нават для

---

[14] Потым Вялікая Садовая, у наш час – вул. Ленінская

[15] Потым Дняпроўскі праспект, у наш час – вул. Першамайская

мяне самой, бо цяпер я ведаю, што такое сапраўдны смутак і пакуты, пасьля вялікага мноства пакутаў, якія я сустрэла за сваё жыцьцё; але тады, у сем год, калі я знайшла свой паламаны парасон, я думала, што няма большага бедства, чым тое, што адбылося ў мяне, а з новым парасонам я адразу забылася на ўсе пакуты, што прынёс мне ўраган.

*У доме маёй добрай бабулі*

Было премна, вельмі прыемна, калі я вярталася са школы ў халодныя дні і ўваходзіла ў пакой маёй бабулі, якая сядзела там за столікам каля палаючага каміну, а самавар кіпеў, і на століку ляжалі кнігі "Цэна-уРэна"[16] і іншыя падобныя, якія яна чытала. Акрамя сьвяцільні, што была запаленая ў цэнтры пакоя, на стале таксама стаяла сьвяча, што асьвятляла літары РаШ"І[17] ў "Цэна-уРэна". Сьвяча выкарыстоўвалася таксама, каб смажыць на ёй маленькіх вэнджаных рыбак (якія называліся: флундэркес), якіх мая бабуля заўсёды рыхтавала мне па вяртаньню са школы, яна рыхтавала і іншыя рэчы, пра якія мая добрая бабуля ведала, што яны мне смачныя. Добрая бабуля балавала мяне больш за ўсіх сваіх унукаў і ўнучак, бо я была малодшая сярод іх, і яна заўсёды рыхтавала для мяне гэткія сюрпрызы, якія прыносілі мне радасьць. Яна радавалася глядзець, як я слухаю яе словы і яе расказы, якія яна распавядала пра дні, калі яны з дзядулей Шмар'яй Лурыя, вечнай памяці, (якога я не ўдастоілася застаць) і з усёй сям'ёй езьдзілі ў Ерусалім, і якім доўгім было падарожжа па моры, і небясьпека, якая вісела над імі, калі яны плылі на парусным караблі на працягу 2х месяцаў, ці нават болей. Тады ўжо Ерусалім знайшоў сабе месца ў маім маленькім мазгу, і я марыла пра яго мары "1000 і адной ночы", пакуль у рэшце рэшт мае мары не спраўдзіліся.

*Актывістка Груна і яе брат нігіліст*

Наш дом быў вельмі вялікі, 2х павярховы, і стаяў паміж дзьвума галоўнымі дарогамі горада. На першым паверсе жыў начальнік паліцыі і яго сямья. Там знаходзіліся таксама памяшканьні паліцыі. На ніжнім паверсе з аднаго боку была турма, а з другога боку кватэра маёй бабулі і сям'і дзядзі Йосафа Цукермана, гэта мая цётушка і яе дзьве дарослыя дачкі, Груна і Цыпора. Першая, гэта тая, што была маёй выхавацелькай, і яна здавала ў арэнду кватэры і займалася часткай прыбытку ад кватэр, што належылі чатыром яе сёстрам, дачкам майго дзядулі Шмар'і Лурыя, вечнай памяці, сярод якіх была і мая маці. Паколькі мая маці і іншыя цётушкі жылі ў іншых гарадах, Груна арганізоўвала таксама найлепшым чынам перасылку часткі грошай, што належыла кожнай з іх. Яна была дарадчыкам і папячыцелем сямей Лурыя і Цукерман. У яе было некалькі братоў, але я бачыла толькі аднаго, Эліэзэра Цукермана, першага нігіліста ў сямьі, які быў рэдактарам нігілістычнай газэты ў Пецербурзе, а калі ўлады знайшлі тыпаграфію і яго людзей, ён быў адным з тых, каго саслалі ў Сібір.

Я памятаю той жах, што напаў на ўсю сямью, якая ня магла паверыць, што наогул можна чытаць падобныя тэксты: нігіліст у высакароднай сямьі! Якой няшчаснай была ўся сямья з-за плямы, якой запэцкалі яе. Яны не зьбіралі грошы, каб вызваліць свайго сына з сібірскага пекла. А ў адзін сьветлы дзень Эліэзэр Цукерман вярнуўся ў бацькоўскі дом. Але яго знаходжаньне ў доме бацькоў не працягнулася доўга, час патрабаваў тады ад нігілістаў вялікай дзейнасьці, і яны выцягнулі яго зноўку дзеля "сьвятой працы", да якой яго душа была прывязаная ўзьнёслай у яго вачах ідэяй ратаваньня рускага народу ад рабства і перамогі над дэспатычнай дзяржавай. І ён быў адной з першых ахвяраў, якія трапілі пад скіпетр уладаў (пра гэта ўзгадвае Вера Фінгер у сваёй кнізе Die Nacht um Russland[18]). Хвароба нігілізму хутка распаўсюджвалася па ўсім бульварам пакутнікаў. І іскра прайшла па ўсім семьям

---

[16] "Падыміцеся і глядзіце", пераказ Торы на ідыш з каментарамі і дадатковымі гісторыямі з Вуснай Торы напісаны ў 17ст. Якавам бен Іцхакам Ашкеназі. Вельмі папулярная кніга сярод габрэйскіх жанчын.

[17] Скарачэньне ад рабэйну Шлома Іцхакі (наш настаўнік Шлома Іцхакавіч), знакаміты каментатар Пісьмовай і Вуснай Торы, які жыў у Францыі ў другой палове XI ст.

[18] Ноч вакол Расеі.

арыстакратыі, і шмат маладых хлопцаў ды дзяўчат раптам пакінулі бацькоўскія хаты і ўцяклі ў сталічны горад Пецербург, у якім знаходзілася гняздо нігілістаў, ўсе клопаты якіх складаліся ў тым, як навесьці гібель на цара і яго сямью.

Праз тры гады, што я была ў доме маёй бабулі разам з сям'ёй нашага дзядзі Цукермана, прыехала мая маці з маёй сястрой Маргаліт (цяпер Маргаліт Мэюхас), якая была малодшая за мяне на тры з паловай года.

*9 ава ў доме маёй бабулі*

Дзень 9 ава[19] ў доме маёй бабулі з яе кінот[20], плачамі і стогнамі, я не магу забыць. Я заўсёды хацела параўнаць яго з 9 ава, што ў Ерусаліме каля Мура плачу, хаця я і была там некалькі разоў, у мяне не атрымалася; бо пачуцьці, якія я адчувала, калі была дзяўчынкай, калі я бачыла маю старую бабулю і сямью, што сядзелі на падлозе на маленькіх падушках, а перад імі стул з кароткай сьвечкай, каб асьвятляць тэкст кінот, і ў пакоі цемра і змрок, і ўсе аплакваюць руіны Ерусаліма і Храма – гэтыя пачуцьці былі зусім іншыя за тыя, што я адчувала, калі была на 9 ава тут.

*Заручыны і дзень нараджэньня*

Дачка маёй цётушкі, Груна Цукерман, працягвала клапаціцца пра мяне нібыта добрая і адданая маці пакуль не заручылася. Яе заручыны засталіся ў маёй памяці, бо сабраліся шмат сваякоў і сяброў, і я тады атрымала шмат падарункаў на мой дзень нараджэньня, які выпаў на той дзень. Перад маімі вачыма праплывала цудоўнае відовішча накрытых сталоў, адзін поўны каштоўных падарункаў нявесты і жаніха, а другі быў поўны ласункаў, садавіны і разнастайных булачак. Не абыйшлося таксама без залатых яблыкаў і вінаграду, якія прынесьлі з крамы, дзе ўзімку прадавалі плады з усходу. Вінаград быў загорнуты ў габлюшкі. Кожны фунт каштаваў 40 капеек, а кожны залаты яблык – 6 капеек, бо гэтыя плады былі рэдкасьцю.

*Падарункі цётушкінай дачкі*

Я не бедавала ў дні майго дзяцінства. Добра і прыгожа было ў бацькоўскім доме ў Ружанах, калі я была яшчэ маленькай дзяўчынкай, і пасьля ў маёй бабулі Ханы Лурыя і цётушкінай дачкі Груны Цукерман, якая была мне другой маці, пакуль мае бацькі не прыбылі ў Магілёў. Мне вельмі больна, што я не захавала яе падарункаў, тых што ў кнігах, і тых што былі напісаныя ад рукі мне на памяць, у вершах і ў прозе, на рускай мове ў кнізе з прыгожым пераплётам. Я не глядзела за імі, хаця павінна была захоўваць падобную каштоўную памяць, і згубіла іх праз некалькі год, калі мы ўжо былі ў Ерусаліме. Адна-дзьве песьні яшчэ захаваліся ў маёй памяці, і вось яны:

Ида, Ида, ты уедешь в далёкие страны. Но я долго не забуду, как любила я тебя.

*Мае бацькі і сястра ў Магілёве*

Неўзабаве пасьля заручынаў цётушкінай дачкі мае бацькі з сястрой Маргаліт прыбылі ў Магілёў, каб пасяліцца ў ім. Дзьве мае сястры, Сара Рохэль і Нэхама, засталіся яшчэ ў Ружанах у бабулі Гінды, татавай маці, пакуль маці не наладзіць жыцьцё ў горадзе Магілёве. У доме, чвэрць якога належыла ёй паводле спадчыны, нам вылучылі прыгожую і прасторную кватэру, і мая бабуля Хана цяпер жыла разам з намі. Наша кватэра была на другім паверсе, уваход быў са двара, і калі нам трэба было падымацца ў нашу кватэру, мы кожны раз мусілі праходзіць перад вокнамі турмы, што была на першым паверсе. І кожны раз можна было праз акно і краты бачыць вязьняў, што сядзелі там за лёгкія злачынствы.

[19] Дзень смутку па разбуранаму ерусалімскаму Храму і ўсім няшчасьцям габрэйскага народу
[20] Жалобныя вершы, якія чытаюць 9 Ава

*Наша дапамога вязьням*

Калі мы з сястрой Маргаліт былі яшчэ маленькія, мы заўсёды былі гатовыя дапамагаць вязьням, набываць ім цыгарэты, бублікі, садавіну і розныя іншыя рэчы, і ўсе гэтыя набыткі мы перадавалі ім праз краты сваімі маленькікі ручкамі, якія маглі праціснуцца туды. Але не доўга доўжылася наша дапамога, якую мы сумленна аказвалі вязьням, бо ў другой палове нашага двара жыў начальнік паліцыі са сваёй сямьёй, і праз пэўны час, калі мы перадавалі нашыя набыткі вязьням, ён прайшоў па двару і заўважыў наш учынак, які мы рабілі супраць закону, і калі б мы не былі настолькі маленькага ўзросту, то дакладна былі б пакараныя. Ён паслаў паклікаць нашу маці і папрасіў яе з гэтага дню і далей сачыць за намі, каб мы не парушалі закон адносна вязьняў. Канечне нашы дзіцячыя сэрцы вельмі вельмі пакутвалі ад гэтай забароны, і на гэтым спыніліся нашыя кантакты з вязьнямі.

*Нараджэньне маёй сястры і васкавыя сьвечы да Йом Кіпура*

Адносна маёй сястры Маргаліт, узгаданай вышэй, я дагэтуль памятаю яе народзіны ў пост Гедалы 5633 году[21]. Мая цяжарная маці жыла тады ў доме дзядзі Йосафа Пінса; бо з-за хваробы дзядулі Ноаха Пінса яна павінна была пакінуць свой дом, пакуль ён не акрыяе. І я таксама памятаю, як напярэдні Йом Кіпура ў пакоі, дзе знаходзілася мая маці, паставілі дзьве велізарныя сьвячы з воску, якія ўсталявалі там пасярод кавалка гліны, што знаходзіўся пасярод вялікай міскі поўнай вады, і яны гарэлі больш за 24 гадзіны. Уся гэтая сцэна стаіць перад маімі вачамі, нібыта я бачу яе зараз.

А мой дзядуля, вечнай памяці, так і не акрыяў тады, пакуль не памёр у хуткім часе пасьля таго.

*Дачка начальніка паліцыі і яе пакараньне*

У начальніка паліцыі была вялікая сямья. Старэйшая дачка была прыгожая і какетлівая. Добрых якасьцей у яе не было, у прыватнасьці таму, што яна ненавідзела габрэяў і габрэяк, што прыходзілі ў наш дом. Яна брала гумовы шланг, падключала да крану з вадой і палівала вадой тых, хто трапляўся ёй пад руку. Калі яна бачыла, што мы, дзяўчаты, апранаем строі Малой Расеі, якія былі тады ў модзе, то яна была адной з першых, хто здымаў з сябе гэтыя строі, бо яна не жадала быць падобнай да нас па адзеньню. Акрамя гэтага ёй падабалася ўводзіць нас у грэх, у прыватнасьці ў Шабат. Аднойчы яна папрасіла мяне ў Шабат зайсьці ў прасавальны пакой, што знаходзіўся на нашым двары, і дала мне ў руку гарачы прас. У той момант я забылася, што сёньня Шабат, але калі тая пачала сьмяяцца з граха, які яна прымусіла мяне зрабіць, я зразумела, што нарабіла, і плакала, пакуль не прыйшла яе маці і не ўбачыла, што зрабіла мне яе дачка. Пасьля ўсіх пакутаў, што яна рабіла нам, яе бацькам надакучыла вечна слухаць нашы скаргі, і яны паслалі яе ў пансыён гімназыі, а мы радаваліся гэтаму, бо ведалі, што немагчыма было пакараць яе большай карай, чым адаслаць яе ў пансыён. Бо перад усім яна павінна была апранацца ў простае адзеньне і ў чаравікі на нізкіх абцасах, і я памятаю нашу радасьць, калі мы бачылі яе сярод вучаніц пансыёна падчас іх шпацыровак па вуліцы, а мы крычалі з акна яе імя, бо жадалі, каб яна адчувала, што бы сочым за ёй.

*Танец і антысемітызм*

У школе, якую я наведвала, я адчувала нянавісьць вучаніц хрысьціянак да габрэяў, і ў прыватнасьці ў дзень урока танцаў, гэта пяты дзень усяго тыдню. Настаўніца танцаў узяла мяне да вучаніц больш высокіх клясаў, і гэтага не маглі сьцярпець. Яны заўсёды імкнуліся даносіць на мяне, але ўсе іх даносы не прынесьлі ім карысьці, бо настаўніца ведала іх злыя намеры, і ім на злосьць і гнеў я была сярод першых танцорак. У нас было асобнае адзеньне

[21] 6.10.1872

для танцаў і для школы. У школе мы насілі карычневую сукенку з хлопку, чорны фартух і белыя каўнеры; і гэты ўзор і колер мела таксама адзеньне для танцаў, але яно было з больш каштоўнай тканіны. Каўнеры вучаніцы прышывалі самі, і тая, што мела посьпех у шыцьці, атрымлівала падарунак ад дырэктрысы, а гэта было стымулам для вучаніц, якія хацелі дасягнуць посьпеху ў шыцьці і рукадзельлі.

*Мае сімпатыі і іх процілегласьці*

Мы любілі не ўсіх нашых настаўнікаў і настаўніц. У асаблівасьці мы не любілі настаўніцу геаграфіі і нашу настаўніцу матэматыкі. Абодва гэтыя прадметы не былі асабліва любімыя сярод нас, і я заўсёды атрымлівала выракі.

Што я любіла больш за ўсё, гэта дапамагаць пакаёўцы ў хатніх справах, танцаваць, займацца гімнастыкай, рукадзельнічаць і чытаць кнігі, у прыватнасьці Рабінзона Круза, Дон Кіхота і Тысяча і адну ноч. Падчас я здабывала кнігі, што не падыходзілі да майго ўзросту, і атрымлівала за гэта вырак ад бацькоў, і доўгі час я не парушала іх словаў. Але з таго часу, як мяне ўзялі на пьесу “Рэвізор” і на опэру “Русалка”, я пачала чытаць пьесы: Рамэо і Джульету Шэкспіра, Аіду і яшчэ, у якіх я нічога не разумела, але любіла трагедыю, што адбывалася ў гэтых опэрах. Трагедыю жыцьця і каханьня!

*Да генеральскага дому*

Аднойчы мы з маці ехалі па масту, што над Дняпром, у час, калі зімовыя фурманкі стаялі адна ля адной. У адной з фурманак сядзела жонка генерала, аднаго з высокіх чыноў войска, з сямьёй. Калі наша фурманка прыблізілася да іх, гэтая генеральская жонка папрасіла маю маці, каб яна дазволіла мне перайсці ў іх фурманку, таму што яна хацела ўзяць мяне ў свой дом. Паколькі падобная просьба лічылася вялікім гонарам, маці пагадзілася. І пакуль я была ў доме генерала мяне ганаравалі разнастайнымі цукеркамі, шматлікімі ласункамі і падарункамі. І па ўсяму гораду Магілёву хадзілі чуткі пра гонар, які атрымала мая маці праз мяне.

*Мой тата і студэнты ў Магілёве*

Дні знаходжаньня майго таты ў Магілёве былі не доўгія, бо ён быў выкліканы ў Лондан, каб атрымаць службу дэлегата ў камітэце місыі міністра Мошэ Монтэфіоры ў Ерусаліме.

З таго кароткага часу, што мой тата, вечнай памяці, жыў з намі ў Магілёве, у маёй памяці засталіся вечары, у якія студэнты гімназісты з высакародных сямей зьбіраліся і слухалі з вялікай увагай словы майго таты на гутарках, падчас якіх ён размаўляў зь імі да поўначы. Бывала яны самі ставілі самавар, калі наша пакаёўка ўжо спала сном праведнікаў. Яны хацелі слухаць Тору таты. Бо ён быў ім не толькі выкладчыкам, але таксама і настаўнікам, і даваў ім добрыя парады ў час, калі пачаўся рух нігілістаў, і шмат хто з моладзі далучыўся да іх, а іх бацькі пакутвалі праз гэта. Шмат маладзёнаў слухалі парады майго таты і ўбіралі рукі падалей ад гэтага руху.

*Прызначэньне майго таты на службу ў Ерусаліме*

Падставай для запрашэньня майго таты ў Лондан было тое, што д-р Ашэр прачытаў у газэце “аЛеванон”, якую выдаваў тады Йехіэль Брыль, артыкулы майго таты, якія ён пісаў там пра любоў да Зямлі Ізраіля, і таксама яго кнігу “Ялдэй рухі[22]”, якую ён склаў яшчэ ў маладыя гады. Гэты д-р Ашэр, пад уплывам вядомага “магіда” Цві Дайенава, паведаміў свае думкі агульнаму камітэту місыі Монтэфіоры, што гэты юнак, з яго мудрасьцю і ведамі, зьяўляецца чалавекам, які пасуе, каб яго паслалі ў Зямлю Ізраіля і перадалі ў яго рукі кіраўніцтва над усімі рэчамі, якія патрэбныя камітэту місыі Монтэфіоры дзеля выплат працоўным.

---

[22] Дзеці майго духу

Пра заняткі майго таты і пра яго адданасьць і ўсе беды, і лаянкі, і подласьці, ад якіх ён пакутваў у Ерусаліме, я распавяду ў наступных частках. А цяпер мне трэба працягнуць мае ўспаміны з дыяспары.

Два разы мой тата езьдзіў у Лондан, і камітэт прымаў яго з павагай і ветлівасьцю, а калі ён вярнуўся ў Магілёў, то застаўся з намі на некалькі месяцаў і пачаў рыхтавацца да паездкі ў Ерусалім.

Два гады мы чакалі, пакуль ён выклікаў сваю сямью ў Ерусалім. Тыя два гады былі падобныя нам да дзесяткаў год.

*Працы маёй маці і бабулі*

Калі я вярталася са школы ў зімовыя дні, я знаходзіла маю маці і бабулю сідзячымі разам, і кожная за сваёй працай. У маці, якая мяла белую тканіну, каб тая зрабілася белай і тонкай, былі навалачкі і прасьціны, якімі тады пакрывалі ложкі дзеля прыгажосьці. Аднойчы маці распавяла мне, што калі яна жыла ў Ружанах, то шыла цэлыя покрывы для ложкаў. І вось убачыў іх сваяк Фрыдленскі з Навагрудку, і яны яму вельмі спадабаліся. Маці аддала іх прадаўцу за 200 рублёў, а грошы перадала ў лякарню і Талмуд-Тору, якую сямья Пінс падтрымлівала за свой кошт.

Часам бабуля Хана сядзела са сваёй кнігай “Цэна уРэна” і чытала яе ўголас маёй маці, а часам вязала цёплыя шкарпэткі і цёплыя пальчаткі, якія трэба было насіць у зімовыя дні.

Штотыдзень да маёй маці зімовымі начамі прыходзілі блізкія і добрыя сяброўкі, каб пагуляць у карты, у Аку і ў Прэферанс, а атрыманыя грошы дзялілі на часткі дзеля цдакі[23] тут і ў Зямлі Ізраіля, і таксама для прыслугі.

## 3. Паміж Магілёвам і Ерусалімам

*Сьмерць маёй бабулі*

Пасьля пераезда майго таты ў Ерусалім мая маці засталася ў Магілёве з маёй бабуляй Ханай Лурыя, якая ўжо аднойчы езьдзіла ў Ерусалім, раней, калі туды езьдзіў мой дзядуля р. Шмар’я Лурыя. Яна моцна жадала, каб таксама і цяпер паехаць з намі ў Зямлю Ізраіля, аднак недзе праз месяц з таго часу, як наша сямья пачала рыхтавацца да дарогі, яна да нашага болю захварэла на запаленьне лёгкіх і памерла раней, чым удастоілася накіравацца да Сьвятой Зямлі, пра якую марыла на працягу дзён і год. Яна грэла сваю душу надзеяй, каб зноўку пабачыць усіх блізкіх з сямы Рывлін, якія пасяліліся ў Зямлі Ізраіля; але да нашага болю яе спадзяваньні не спраўдзіліся.

*Пытаньне карміліцы*

Шэсьць месяцаў пасьля таго, як мой тата пакінуў Магілёў, нарадзіўся мой малодшы брат. Нам трэба было знайсьці для яго карміліцу, бо ў нашым багатым доме маці не кармілі сваіх немаўлят, але бралі карміліцу да сябе ў дом, і яна заставалася там падчас на два гады, пакуль не выкарміць хлопчыка ці дзяўчынку. А потым заставалася нянькай для астатніх дзяцей дому, ці атрымлівала працу кухаркі. Цяжка было знайсьці карміліцу габрэйку ў наш дом для майго высакароднага брата, (бо перад ім ужо памерла два маіх брата у самым росквіту, і гэта быў трэці, якога спадзяваліся выгадаваць і выхаваць для Торы, і для хупы, і для добрых учынкаў), але нарэшце знайшлі.

*Апавяданьні карміліцы*

Апавяданьні, што распавядала мне штоноч карміліца майго маленькага брата, якая жыла ў нашым доме прыкладна паўтара года да нашага ад’езду ў Зямлю Ізраіля, я слухала з

[23] Дабрачыннасьці

вялікай увагай. Большасьць апавяданьняў была пра дэманаў і духаў, і апавяданьні хасідаў і “іх рэбес”, пра цуды і неверагодныя рэчы, што адбываліся ў іх жыцьці. Усе гэтыя апавяданьні не палохалі мяне, а душа прагла яшчэ і яшчэ, у асаблівасьці калі яна апісвала мне папяровы мост, які трэба будзе перайсьці габрэям, падчас іх пераходу ў Зямлю Ізраіля, і колькі год спатрэбіцца жыхарам замежжа на тое, каб рухацца пад зямлёй “рухам дараваньня”, пакуль не дасягнуць Места. І як я радавалася ў думках, што мы не будзем цярпець усе гэтыя пакуты, бо ці не пераедзем мы ў Зямлю Ізраіля і будзем ужо там, калі прыйдзе наш праведны Машыях, і ўласнымі вачыма ўбачым нашага Машыяха вярхом на белым асле, і прыйдзе наш паратунак.

*Малітва і цуд*

Два гады прайшло яшчэ ў дыяспары без майго дарагога таты, і маці патрэбна было клапаціцца пра наша выхаваньне і дапамагаць нам не сыйсьці з прамога шляху і шляху выкананьня ўсіх законаў нашай Торы. Я ніколі не ішла ў школу пакуль не малілася малітву Шмонэ-Эсрэ[24], але гэта не перашкаджала маёй вучобе. А аднойчы нават адбыўся цуд праз маю малітву. Усё было так: мая маці часам губляла прытомнасьць, і аднойчы, калі я стаяла і малілася Шмонэ-Эсрэ, я пачула раптам, што нешта павалілася, і якім вялікім быў мой жах, калі я ўбачыла маю маці, што страціла прытомнасьць і ляжыць на падлозе, і кіпячы самавар пачынае працякаць на яе. Бо яна раптам страціла прытомнасьць набіраючы сабе стакан гарбаты, і каб я не была ў той момант у пакоі і не зачыніла кранік з вадой, магла б здарыцца вялікая бяда, і ўсе тыя, што вераць у цуды, кажуць, што маці ўратавалася ад жудаснай бяды праз маю малітву.

*Мая вучоба і адзеньне*

Акрамя таго, што я вывучала ў школе, у мяне таксама быў “рэбе”, каб вучыць мяне Пяцікніжжу, і другі настаўнік, каб вучыць мяне разам з сястрой габрэйскаму пісьму. Маці заўсёды клапацілася, каб мы былі апранутыя з добрым густам і сьціпласьцю, як дачкі паноў, бо мы заўсёды былі высакароднымі сярод больш багатых сямей.

*Наведваньні дабрачынных арганізацый з маёй маці*

Мая добрая маці брала мяне час ад часу з сабой у візыты да дамоў дабрачыннасьці, дзе працавалі жанчыны міласэрнасьці. У маёй памяці яшчэ засталася тая праца, што мая маці і Голда Шор рабілі для цэнтра, дзе бедныя дзяўчыны вучыліся працаваць на швачнай машынцы, якія 60 год таму былі дэфіцытам, таму бачыць швачныя машынкі было для мяне цудам. Дзяўчыны атрымлівалі таксама абеды, і я бачыла як назіральніца напоўніла чарпак супу і дала яго гаспадыням, каб яны пачаставалі суп, які атрымліваюць вучаніцы на абед. І колькі было радасьці ў тых беднякоў знахзодзіцца ў падобным цэнтры, пра які клапоцяцца вытанчаныя і добрыя гаспадыні, і вучыць прафесыю, праз якую яны смогуць зарабляць сабе на жыцьцё працай сваіх рук. Такім чынам наша добрая маці заўсёды прывучала нас да добрых учынкаў, тым што брала нас у месцы, дзе яна і яе сяброўкі займаліся на карысьць людзей, якім была патрэбная дапамога і заступніцтва.

*Паклон перад выявай Марыі*

Калі я яшчэ была ў школе, здарыўся выпадак, калі ў цара Аляксандра II была кінутая бомба, і ён пазьбег сьмерці. Тады было загадана ўсім вучаніцам, малодшым і старэйшым, каб яны пакланіліся перад выявай Марыі і падзякавалі ёй за цуд, які адбыўся з царом. З малодшых клясаў я, а са старэйшых клясаў Голда Шор зьбеглі з залы, у якой мы знаходзіліся,

---

[24] Малітва з 18 блаславеньняў (“шмонэ-эсрэ” гэта 18 на іўрыце), якую габрэі кажуць тройчы на дзень: ранкам, пасьля поўдня і з надыходам ночы

ведаючы, што габрэям забаронена падобнае пакланеньне. І з таго дню мы не вярнуліся на вучобу ў тую школу, дзе мы павінны былі атрымаць немалае пакараньне. Старэйшую Шор адправілі ў Франкфурт, каб яна вучылася там, а мяне больш не адпраўлялі ў школу, бо гэта было напярэдні нашага ад'езду ў Зямлю Ізраіля.

---

*Цукерман і яго дом*

Я заўсёды любіла прыходзіць у дом Цукермана, дзе нас прымалі з велікай раскошай. У асаблівасьці нас частавалі залатымі яблыкамі і вінаградам, якія былі ў нас дэфіцытам, і не кожны заможны гаспадар мог дазволіць сабе набываць гэткія дарагія плады.

У Шмар'ягу Цукермана было дзьве дачкі, адна зь іх выйшла за доктара Этлінгера, сына рава Этлінгера з Альтоны, а другая ўзяла мужа з сямы Сімховіч са Слуцку. Яны былі багатыя, мелі дамы поўныя раскошы, а ў іх бацькі, Шмар'і Цукермана, які быў дзядзькам маёй маці, быў самы багаты дом у Магілёве, з абедзьвух бакоў вуліцы ў цэнтры горада. Насупраць гарадскога саду стаяла вялікая сінагога, а з другога боку банк Цукермана, а над ім быў дом, у якім ён жыў са сваёй другой жонкай, Сарэль-Товай. Яна была ўнучкай Гаона з Вільні, мудрая, пабожная, вялікадушная жанчына і мецэнатка, але з гонарам, ведаючы сваю важнасьць і заможнасьць. Шмат шмат рабіла яна дзеля дабрабыту мноства габрэяў, якія прыходзілі ў горад на сьвяты, рыхтавала ім вялікую колькасьць мацы і бульбы.

Як я пісала раней, я любіла прыходзіць у дом Цукермана, але не толькі з-за каштоўных пладоў, аднак таксама каб прайсьціся па вялікім і доўгім салонам. З абодвух бакоў на іх сьценах былі люстры ад столі да падлогі, якія былі ўстаўленыя ў залатыя рамы, і мэбля таксама была ў адпаведным стылі. Для вазонаў з этрогавымі дрэвамі мелася асаблівая зала, а вялікая сукка стаяла паміж усімі гэтымі пакоямі. Там таксама было дзьве вельмі вялікія вазы, зробленыя ў Кітаі, і кожны, хто бачыў іх, зьдзіўляліся іх прыгажосьці і вытанчанасьці. Я любіла слухаць, як мая маці распавядала Сарэль-Тове пра нейкую сямью, куды прыйшла сьмерць, ці пра нейкую жанчыну, што хварэе на сухоты і павінна піць колькі літраў малака штодзень, ці пра нейкага гаспадара, які страціў спадчыну, і колькі ім усім патрэбна для падтрымкі; і яна ніколі не адмаўляла маёй маці. У палацы Шмар'ягу Цукермана (бо яго дом сапраўды можна назваць палацам) былі вылучаныя кватэры для генэралаў і вяльможаў, каб жыць там бясплатна. А пасьля вайны паміж Турцыяй і Расеяй, дзе было ўзята ў палон шмат турэцкіх генэралаў, Цукерман перадаў свой палац усім, і яны ўсе жылі там, пакуль Турцыя з Расеяй не спыніліся.

*Памяць пра Ерусалім*

Чорны камень на галоўным уваходзе, на якім быў высячэны ўрывак: "калі забуду цябе Ерусалім, няхаў забудзе (граньне) мая правая рука", таксама застаўся высячэным у маёй памяці. І заўсёды, калі я прыходзіла з маці да гэтага месца, я спынялася, каб прачытаць гэтыя радкі, і не забывала Ерусалім, да якога мая душа прывязаная назаўжды, і пагэтаму мая правая рука ўдастоілася напісаць гэтыя радкі.

*Летняя рэзідэнцыя Цукермана*

Прыгожа і прыемна было ў часы вакацый знаходзіцца ў летняй рэзыдэнцыі Шмар'і Цукермана, які запрашаў нас штогод пажыць там разам з яго сямьёй і домам Этлінгераў і Сімховічаў. Для кожнай сямы быў асобны драўляны летні дом. Толькі дом Цукермана быў пабудаваны больш раскошна і быў большы за дамы яго дачок. Вакол дамоў былі выкшталцоныя сады поўныя разнастайных кветак, што радавалі позірк, і разнастайнымі пладовымі дрэвамі са смачнай садавінай. Мы, хлопчыкі і дзяўчынкі, бадзяліся па гаях, шукалі

грыбы і клубніцы, штодзень купаліся ў стаўку і бавіліся, як душа пажадае. Поўная радасьць, чыстая радасьць была ў нас. Часам мы дапамагалі чэлядзі зьбіраць вішні і разнастайныя суніцы і чысьціць іх, а кухарка варыла з усіх гэтых пладоў варэньне на цэлы год. Падчас збору мы елі ад тых пладоў і насычаліся, і не аднойчы, і не двойчы хварэлі колькі дзён ад грубай ежы, і нашым пакараньнем было засьцерагацца ад паяданьня “гэтага чырвонага чырвонага”. У гэтай летняй рэзыдэнцыі таксама было зроблена месца для купаньня ў вялікім стаўку, зробленым для членаў сямы, і штодня мы купаліся, бавіліся ў вадзе, вучыліся плаваць, і кожны з нас паказваў стараннасьць у гэтым.

*У сукке Цукермана*

Я бачу перад сабой гэтага прыгожага чалавека разам з яго жонкай Сарэль-Товай у іх прыгожай сукке ў той летняй рэзыдэнцыі, у ноч Шабата Суккот. Ён са сваімі дачкамі, зяцьмі і ўнукамі сядзяць разам пасьля трапезы і гутараць, і мяне уражвае адна рэч, гледзячы на тое, як наліваюць заварку, якую рыхтавалі загадзьдзя на кожны Шабат і не карысталіся сьвежай заваркай. Наша сямья таксама была даволі строгай, але я не магу ўзгадаць, каб таксама і ў нашым доме трымаліся падобных строгасьцей.

Калі мы вярнуліся пасьля сьвята да дому, да нас прыйшла сумная навіна, што дзядзька маёй маці, Шмар'ягу Цукерман, памёр ад сардэчнага прыступу ў дзень Сімхат-Торы[25]. Некалькі дзён таму мы пакінулі іх радаснымі і шчасьлівымі, і раптам абарвалася ніць жыцьця для ўсёй яго сямы, гонарам і раскошай якой ён быў, а з яго сьмерцю скончылася ўсё.

*Пікнікі на Дняпры*

Я памятаю яшчэ пікнікі, якія рабілі нашы блізкія, гандляры з Магілёва, калі ў іх былі вялікія мачтавыя караблі на Дняпры. Прыкладна 50 мужчын і жанчын з сямы плылі на караблі, дарослыя і дзеці, і вандравалі, і ладзілі трапезы на Дняпры. Падобная вандроўка доўжылася падчас тры дні, карабель час ад часу прыставаў да таго берагу, дзе можна было сыйсьці на сушу, і там мы зьбіралі сьвежыя арэхі, што расьлі ў тых мясьцінах. Гэту задачу выконвалі мы, дзяўчыны ўзросту 10-12 год. Мы забіраліся на дрэвы і маглі сабраць усе плады, а дрэва заставалася абчышчаным. Мы гулялі ў гульні на сушы, а калі стамляліся, вярталіся на карабель, які рушыў далей і далей, і мы павольна павольна аддаляліся ад зямлі. Уражаньне ад вандровак па люстру ракі заставалася ў маёй памяці да нашага падарожжа ў Зямлю Ізраіля па Чорнаму мору.

---

*Паездка майго дзядзі ў Ерусалім*

Турэцка-Расейская вайна скончылася, і мой дзядзя Залман Лурыя, які прыняў на сябе забесьпячэньне патрэбаў рускага войска ў харчаваньні і адзеньні, зарабіў шмат грошай і даў зарок наведаць Зямлю Ізраіля. Калі яму быў яшчэ толькі год, бацькі прывозілі яго ў Зямлю Ізраіля, і калі ён вырас, яго душа заўсёды імкнулася наведаць Ерусалім, і ў рэшце рэшт ён трапіў туды. Ён заставаўся ў Зямлі некалькі месяцаў, і калі з мірам вярнуўся ў Магілёў да дому і сямы, то перадаў нам прывітаньне ад нашага таты, які ў той час жыў у Ерусаліме, і чакаў нас з нецярпеньнем.

Гэтыя словы дзядзькі вельмі паўплывалі на дух маёй маці і далі ёй моцы перабароць усё непрывабнасьці, што хаваў у сябе пераезд маладой сямы ў Ерусалім. У рэшце рэшт яна вырашыла пакінуць горад свайго нараджэньня, дзе ўсе былі вельмі дарагія ёй, і ёй цяжка было думаць пра раставаньне зь імі і пра такі далёкі шлях.

---

[25] Шмар’ягу сын Мордэхая Цукерман памёр ва ўзросьце 61 года ў дзень 24 тышрэя 5639 года (21.10.1878). Інфармацыя з яго надмагільля, якое дагэтуль стаіць на габрэйскіх могілках Магілёва.

*Гранат Зямлі Ізраіля*

Калі мой дзядзька п. Залман Лурыя вярнуўся з Зямлі Ізраіля, ён прывёз шмат рэчаў на памяць пра Ерусалім. Сярод тых рэчаў быў таксама вялікі і прыгожы гранат, і ён упрыгожыў ім стол у зале, і кожнаму, хто прыходзіў наведаць яго пасьля прыезду з Зямлі Ізраіля, ён паказваў гэты радуючы вочы гранат, і кожны дакранаўся рукамі да гэтага прыгожага плоду. І ці магу я забыць, як жудасна раззлаваўся дзядзька, калі гранат разламіўся ў руках аднаго з трымаўшых яго і ўпаў на зямлю, і ўсе яго бліскучыя чырвоныя зернейкі рассыпаліся разам з кавалкамі скуры па ўсёй падлозе пакоя, і ўвесь гэты прыгожы сувэнір зьнік у адно імгненьне. Мой дзядзька аплакваў яго як разбурэньне Ерусаліма.

*Мая маці і пасланцы з Ерусаліма*

Слова Ерусалім не было для нас чужым, бо ўсе пасланцы, якія прыбывалі з Ерусаліма ў Магілёў, спыняліся ў нашым доме, і мая маці дапамагала ім зьбіраць грошы для кассы рабі Мэіра Бааль аНэс, яна хадзіла з адной са сваіх сяброўак па дамам багатых людзей, якія давалі свае ахвяраваньні шчодрай рукой. І яшчэ засталося ў маёй памяці, калі мая маці вярталася з абыходу па гораду і рабіла падлік, што багачы давалі ёй 5, 10, 15 рублёў, якія тады лічыліся значным ахвяраваньнем, і ў выніку каля 500 рублёў для пасланца з Ерусаліма было вялікім капіталам.

Аднойчы прыйшла таксама жанчына ў якасьці пасланца, яе звалі Хана Новардыкерн. Яна была мачыхай д-ра Авраама Гаркаві[26] і жыла ў Ерусаліме зь яго айцом, яна асабіста прыбыла ў якасьці пасланца, і таксама ёй вельмі дапамагла мая маці. Яна распавяла нам шмат пра жыцьцё ў Ізраілі. Мы з захапленьнем глядзелі на ерусалімскую вопратку, на яе голеныя валасы, на хустку на яе галаве і нагавіцы, што былі даўжынёй у локаць з паловай на кожнай назе і выходзілі за край сукенкі.

*Падрыхтоўка да пераезду*

У той час пачалося ліставаньне паміж маімі татам і маці на тэму таго, што трэба падрыхтаваць вопратку для яе і нас, і з гэтай нагоды перашыць сукенкі па ерусалімскаму густу, бо тамашняе адзенне адрозьнівалася ад эўрапейскіх строяў. Прыкладна два месяцы правяла швачка ў нашым доме, пакуль скончыла перашываць усё для нас. Мы, дзеці, радаваліся кожнай новай рэчы, якую рыхтавалі для нас. Усё адзеньне, якое нам зрабілі, было з чыстай воўны. Паводле таго, што пісаў мой тата, у той час у Зямлі Ізраіля панавала малярыя, і адзіным выратаваньнем было, насіць ваўняную вопратку. Ён тлумачыў, каб мы прывезьлі выхавацельку габрэйку, якая першы час будзе вучыць нас чужой мове і выхоўваць, але ў той час яшчэ не хапала любові да Зямлі Ізраіля, і немагчыма было тады знайсьці жанчыну, якая хацела б прынесьці ахвяру падобную гэткаму пераезду; і нам не заставалася іншага выбару, як узяць сабе гувернанткай рускую хрысьціянку, якая прагла душой памаліцца на магіле Йешу ў Ерусаліме. Яна стала нянькай для майго маленькага брата, якому быў год з паловай, і была вельмі адданай майму брату і нам, дзяўчынкам.

*Расставаньне*

Вельмі цяжка было маёй маці расставацца з родным горадам, з адзіным братам і трымя сёстрамі, з сямьёй і з шматлікімі вернымі сяброўкамі. У параўнаньні з гэтым мы, дзеці, былі вясёлыя і радасныя, таму што мы зараз мелі магчымасьць упершыню ў жыцьці адправіцца ў падарожжа на цягніку і караблe, і ўбачыць гарады і краіны, і таксама вялікае

---

[26] Авраам Эліягу Гаркаві (17.10.1839 Навагрудак – 15.03.1919 Петраград) – сапраўдны стацкі саветнік Расейскай Імпэрыі, усходазнаўца і гебраіст. Удзельнік шматлікіх навуковых суполак, аўтар арыткулаў Габрэйскай энцыклапеды і Энцыклапедычнага слоўніка Брокгаўза і Эфрона. Габай Вялікай харальнай сінагогі С-т Пецярбурга.

мора. У Зямлі Ізраіля мы будзем есьці вінаград, гранаты, міндаль і разынкі, якіх у Ізраілі мноства паводле словаў дзядзькі, які распавядаў нам пра гэта па вяртаньні адтуль.

Недзе на працягу тыдня дзверы не замыкаліся. З ранку да вечара прыходзілі людзі, жанчыны і дзеці. Адны прасілі нас памаліцца за іх на сьвятых месцах, іншыя, каб прыслалі ім чырвоных ніток, якімі абмотвалі магілу нашай прамаці Рахелі[27], прыкмета хворым на краснуху і шкарлятыну, яе павязваюць вакол шыі хворых ці на руку, каб паскорыць вылячэньне. Прасілі таксама прыслаць ім зямлю з Маслічнай гары, бо калі яны на ўдастояцца быць пахаванымі на Маслічнай гары ў Зямлі Ізраіля, па меншай меры яны пакладуць трошкі зямлі адтуль на свае магілы ў дыяспары. Шмат было разнастайных просьбаў, якія мая маці абяцала выканаць, і выканала іх таксама.

*Расставаньне з Грунай, – гісторыя з забітым*

Цяжка, цяжка было мне раставацца з дачкой маёй цёткі, Грунай, якая была мне выхавацелькай у часы майго жыцьця ў доме маёй бабулі да таго, як мае бацькі пераехалі ў Магілёў. Я была вельмі прывязаная да яе, і не забудуцца з маёй памяці яе вялікія клопаты пра мяне, калі аднойчы быў забіты паліцэйскі, і я выпадкова бачыла забітага праз акно ў пакоі паліцыі. Усё было так: злодзеі ўвайшлі ў нейкі дом дзеля рабунку пасьля поўначы, а той паліцэйскі стаяў на пасту. І калі ён убачыў іх і хацеў перашкодзіць іх плянам, яны забілі яго на тым месцы і кінулі яго цела ў яму са сьмецьцем. Наступным ранкам забітага прнесьлі ў паліцыю, якая была ў нашым двары, і ў мяне была магчымасьць бачыць раны на яго галаве і твары і пятна яго выцекшай крыві, і абрыўкі паперы, якімі былі прыкрытыя яго раны. Увесь горад стаяў на вушах, і хаўтуры былі зробленыя з вялікай урачыстасьцю. Усе высокія чыноўнікі несьлі дамавіну па чарзе, а вайсковы хор праводзіў забітага з песьнямі да могілкаў. Я таксама ішла за хаўтурамі, але праз нейкі час мяне прымусілі вярнуцца да дому, бо вялікі быў мой жах з-за твара нябожчыка, які стаяў перад маімі вачыма і вылішаў мяне пакою па начах; і тая Груна брала мяне ў свой ложак і супакойвала маю душу, пакуль мне не стала лепей.

*Мой дзядзька рав Фрыдман*

Спачатку з намі разьвітацца прыйшлі дзядзькі і цёткі з Ружанаў і таксама блізкія з іншых гарадоў, і нават мая карміліца, якая засталася на ролі пакаёўкі пасля таго, як выгадавала мяне, і калі мы пераехалі жыць у Магілёве, яна засталася ў маёй бабулі Гінды ў якасьці прыслужніцы. Яна была дарагім чалавекам і была адданая нашай сямы да самой старасьці.

Прыйшоў таксама мой дзядзя рав Давід Карлінэр, таксама вядомы як гаон Давід Фрыдман. Гэты дзядзька, якога я ўдастоілася ведаць, быў чалавекам невысокім, хударлявым і тонкім, ён апранаўся ў кафтан з чорнага атласу і апаясваўся доўгім чорным пасам, які ён часам павязваў вакол таліі. Лад яго жыцьця, пра які я ведаю з яго знаходжаньня ў нашым доме на працягу тыдня, быў наступны: ён сілкаваўся толькі пьючы малако, некалькі стаканаў штодзень, з сухарамі. Увесь дзень ён вучыў Тору, а ноччу спаў на кожанай канапе без аніякай падушкі. Ён падымаўся апоўначы і паглыбляўся ў малітву Тыкун-хацот сідзючы на падлозе, дзеля аплакваньня зьнішчэньня Храма і дзеля малітвы, каб аШэм аднавіў славу нашага народу і славу сьвятога горада Ерусаліма, як у былыя часы.

Я любіла гуляць у кожаныя мячыкі, падкідваць іх дагары і лавіць, калі яны падаюць. Асабліва мне хацелася гуляць у Шабат, калі я была на вакацыях, але маці не давала мне гуляць у мяч па Шабатам. Цяпер у мяне была магчымасьць спытаць у майго дзядзькі рава Давіда Фрыдмана пра гэта, і ён дазволіў мне. У той час маёй радасьці не было межаў, і я была вельмі вельмі ўдзячная яму за яго прысуд.

---

[27] Абмотвалі ніткай надмагільле, каб такім чынам далучыць хворага, які носіць гэтую нітку, да заслугаў прамаці Рахелі, чым паспрыяць яго вылячэньню.

*Падарожжа і фурманка*

У тыя гады ў нашых мясьцінах яшчэ не было чыгункі, і таксама немагчыма было знайсьці вялікага возу, які быў бы ў стане зьмясіць на сабе ўсю сямью з сямі чалавек. Таму мы арэндавалі нешта накшталт фурманкі, што называлася “бойд”, і на ім можна было разьмясіць усіх разам з нашымі падушкамі і скрынямі, і мноствам нашых пажыткаў, разам з ежай і напоямі, якіх мы падрыхтавалі ў мностве. І ўсё гэта цягнулі два коні. Як я казала, тады не засталося нават немаўляткі ў калысцы, хто не пайшоў бы праводзіць нас да станцыі, што знаходзілася ў двух гадзінах ад гораду, і некалькі гадзін цягнулася чарада тых, хто нас праводзіў. Сярод праваджаючых, на цудоўных фурманках былі прадстаўнікі сямей Цукерман, Этлінгер, Сімховіч, Ратнэр, Шор, Эйдэльман, Эйдэльсон, Гаркаві, Гурвіц і іншыя, і іншыя.

Нарэшце надыйшоў час, калі мы павінны былі разьвітацца з усёй нашай дарагой сямьёй, з сябрамі і сяброўкамі, знаёмымі і знаёмкамі, і сьлёзы і плач не спыняліся, пакуль наш “бойд” не аддаліўся па ціху ад усіх, хто быў нам дарагім доўгія годы.



Мая маці Хая Цыпора, спачывай з мірам, (зьлева)
Мая сястра Сара Рохэль (справа)
і я (па цэнтру) перад нашым адʼездам у Зямлю Ізраіля

## 4. У Ерусалім!

***